Сёння ў нумары:
Франак ВЯЧОРКА: "**БЕЛАРУСКАЯ АДУКАЦЫЯ – ВОРАГ ДЗЯРЖАВЫ?** *КРОНІКА ПАДЗЕЯЎ ВАЧЫМА ЎДЗЕЛЬНІКА*". Стар 3-4.


***Разблытайма таямніцы!***

**№ 2.**

# Скарб думак

ПАНЯДЗЕЛАК
3
ЛІСТАПАДА
2003 ГОДА

***Незалежнае рознабаковае выданне***


# Спіце спакойна. Дзяды!



*Фотаздымак*

Франак Вячорка

# БЕЛАРУСКАЯ АДУКАЦЫЯ – ВОРАГ ДЗЯРЖАВЫ?



## КРОНІКА ПАДЗЕЯЎ ВАЧЫМА ЎДЗЕЛЬНІКА

**Ліквідацыя ліцэю – справа надзвычай глябальная. Гэта фактычна зьнішчэньне апошняга, цалкам беларускага носьбіту адукацыі. Ліцэй, як вядома, праявіў і запатэнтаваў сябе установаю эўрапейскага ўзроўню й тыпу адукацыі, месцам падрыхтоўкі будучай беларускай інтэлігенцыі. Менавіта таму ліцэй быў косткай у горле "ідэялягічнага" курсу дзяржавы, і ўлады не супакоіліся, пакуль не зьліквідавалі ліцэй.**

Зьнішчалі ліцэй крок за крокам. Пачалося ўсё 5 год назад, калі, нягледзячы на пікетаваньні, Міністэрства усё ж "узяла пад сваю апеку" ліцэй, пакінуўшы без афіцыйнага паўнапраўнага дырэктара, якім мусіў заўсёды быць адзін з заснавальнікаў Уладзімер Колас. У пачатку лета на вялікае зьдзіўленьне адміністрацыі, выкладнікаў, бацькоў і ліцэістаў нечакана прызначылі на пасаду кіраўніка ліцэю невядомага чалавека, нейкую спадарыню Шчарбачэвіч Тамару.

28 траўня намесьнік міністра К. Фарына прэзэнтаваў новую "дырэктрысу" выкладніцкаму калектыву і адміністрацыі. Новыпрызначаная ніякім чынам не адпавядала патрабаваньням пасады дырэктара ліцэю, хоць бы таму, што не валодала "галоўнай мовай стасункаў ва ўстанове" - беларускай. А гэта вызначана ў Статуце ліцэю. Абураныя выкладнікі былі не задаволеныя прызначэньнем, пра што адразу й паведамілі. У той жа дзень у актавай залі на знаёмства з Т. Шчарбачэвіч прыйшлі і амаль усе бацькі навучэнцаў. "Дырэктарка" праігнаравала ўсіх гэтых людзей і спаслалася, як ня сьмешна, што занятая. Бацькі адзінагалосна вырашылі патрабаваць адстаўкі Т. Шчарбачэвіч, наконт чаго й выказаліся ў сваім першым супольным звароце.

У гэты ж час не сядзелі й бяз справы навучэнцы. Зразумеўшы што да чаго, ліцэісты пачалі дзейнічаць.





Да наступнага дня па ліцэі віселі дзясяткі плякатаў, зьвернутых да Т. Шчарбачэвіч. На ўваходзе й у будынку зьявіліся наступныя надпісы: "Пакіньце нас у спакоі", "Ліцэй Я. Коласа – Коласу", "Нам патрэбны бацька, я ня мачыха", "Нішто ня можа жыць бяз сэрца, дык не забірайце яго ў нас" і іншыя. Пабачыўшы такую рэакцыю навучэнцаў, Шчарбачэвіч запыталася ў выкладнікаў, што гэта яны дазваляюць дзецям. На гэта пэдагогі адказалі, што ня маюць дачыненьня, а навучэнцы выказваюць тое, што думаюць. Такога "дырэктарка" не чакала. Пасьля другога ўроку нарэшце сабраліся ўсе ліцэісты, каб вызначыць пазыцыю дзяцей ў дачыненьні да канфлікту. Ліцэісты вырашылі прымаць непасрэдны ўдзел у працы па захаваньню ліцэю, але й вырашылі пазнаёміцца з Т. Шчарбачэвіч, запрасіўшы на сход на наступным перапынку. Ці мог бы іншы новыпрызначаны дырэктар адмовіцца ў сустрэчы з вучнямі? А яна адмовілася й сказала, што "будзет іщчё многа времені пагаваріць". Ліцэісты адзінагалосна вырашылі патрабаваць адстаўкі Шчарбачэвіч і зьвярнуліся са зваротам, празь які выклалі ўсе свае патрабаваньні і просьбы. А таксама вырашалі тэрмінова дзейнічаць, у тым ліку тэрмінова наладзіць пікеты. Спосабам змаганьня ліцэісты абралі "псыхалягічны ціск" на Шчарбачэвіч.

Бацькі ж зацьвердзілі зварот да Брыгадзіна, зь якім раніцою 30 траўня сустрэліся, а навучэнцы перадалі сваю пэтыцыю "дырэктрысе". Пятніца выдалася самым складаным днём, днём "часовай перамогі". Ліцэісты, бацькі, выкладнікі па чарзе хадзілі на сустрэчы ў пакой "завхоза", дзе засядала Т. Шчарбачэвіч. У выніку апоўдні ўвесь ліцэй акружыў ейны пакой і ўсе пачалі патрбаваць адстаўкі. Ля дзьвярэй была наладжаная цэлая маніфэстацыя са скандаваньнем і песьнямі. У выніку ліцэісты селі ўздоўж калідору і пачалі чакаць.



Вырашаць канфлікт неадкладна прыехалі кіраўнік дэпартаменту сярэдняй адукацыі Шчэрба й чыноўніца гэтага дэпартаменту Саўчук. Тым часам ліцэісты ўсталі засьпявалі гімн “Gaudeamus igitur”, пачуўшы які, Шчэрба пацікавіўся, што гэта за мова. Да шчасьця побач быў сп. Сёмуха, які падрабязна яму растлумачыў. У выніку ўсяго гэтага вырашэньня дзею перанесьлі на панядзелак

Між тым, на наступны дзень Т. Шчарбачэвіч ужо не павінна была зьявіцца ў ліцэй, бо ёй было неабходна на 3 тыдні зьехаць на курсы па падрыхтоўцы кваліфікацыі. У гэты час ліцэем кіраваць застаўся Колас. Але як сьцвярджаюць у Міністэрстве, па сваім вяртаньні Т. Шчарбачэвіч вернецца да сваіх абавязкаў у ліцэй і скасоўваць прызначэньне ніхто не зьбіраецца.

У суботу ж нічога не перашкодзіла ліцэістам і выкладчыкам правесьці традыцыйны апошні званок і павіншаваць і паспачуваць чацьвёртаму курсу.

---

**Т. Шчарбачэвіч нарадзілася ў 1961 годзе ў Казахстане. У 1987 годзе пераехала ў Беларусь і жыла ў Койданава. З 1988 г. – у Менску. Мае дачку – 1983 г. нар. Муж працуе на МАЗе.**

---

Ці можа чалавек, што не нарадзіўся ў Беларусі, які на пытаньне: “Ці размаўляеце вы па-беларуску?” – адказвае, што ў Беларусі дзьве дзяржаўныя мовы, які ня мае ўяўленьня пра элементарныя этычныя правілы, які абразіў сотні людзей сваёй безадказнасьцю й нявыхаванасьцю, станавіцца дырэктарам сапраўды ўнікальнай установы – нашага ліцэю? На гэтае пытаньне павінен адказаць кожны сам для сябе.

У панядзелак бацькі пастанавілі патрабаваць у пракуратуры расьследаваньня мінуўшчыны Т. Г. Шчарбачэвіч, а таксама падалі заяўку на правядзеньне пікету з 19 па 27. Дазвол у выніку быў атрыманы, ніхто не сумняваўся: пікет на пл. Бангалёр. Безумоўна, ніхто з гэтым не пагадзіўся, пікет вырашылі праводзіць усё ж у загадзя вызначаных месцах. Што да змаганьня заявамі, то, відаць, заявы, звароты, пэтыцыі атрымалі ўсе вышэйшыя чыноўнікі, у тым ліку й Лукашэнка. Навучэнцы наведалі Адміністрацыю прэзыдэнта з просьбай да Латыпава паспрыяць сытуацыі, але на сходзе, паводле словаў Коласа, ужо тады было паведамлена, што чыноўнікі разглядаюць варыянт **ліквідаваць** НДГЛ імя Якуба Коласа.

25 чэрвеня ліцэй ліквідавалі. Зрабілі гэтае злачынства ў дзень пахаваньня Васіля Быкава. Сотня ліцэістаў ўжо на наступны дзень сабралася ля будынку. Бацькі, выкладнікі, дзеці пачалі дзяжурства ля будынку, каб не згубіць хаця б будынак. Кожны дзень ладзіліся вулічныя акцыі: Кастрычнікі плян, пр. Скарыны, ст.м. Няміга. Быў наладжаны збор подпісаў і раздача ўлётак у абарону ліцэю. 14000 грамадзянаў выказалі сваю непасрэдную падтрымку ліцэю праз свае подпісы.

Аднак у хуткім часе ліцэістам не далі магчымасьць зьбірацца нават у ліцэйскім дворыку. Бацькі дамовіліся будаўнікоў не пускаць рабіць “рамонт”, мэта якога насамрэч была прывесьці будынак ў непрыгодны стан. Аднак на наступны дзень у ліцэй прыбыў атрад АМАПу, які ў хуткім часе проста выкінуў бацькоў і навучэнцаў за агароджу.

Ля ліцэю працавала штодзённае вахта, якая зьбірала подпісы, займалася росьпісамі асфальту ля будынку, займалася дзяжурствам. Да ліцэю падыходзілі сотні людзей з словамі падтрымкі, ставілі подпіс. Нават пара году не перашкаджала ліцэістам зьбірацца разам і ладзіць акцыі, некаторыя дзеці фактычна ахвяравалі дзеля ліцэю ўласным адпачынкам.

1 верасьня, стомленыя ад трохмесяцовай абароны да ліцэю падашлі ліцэісты, іх бацькі, выкладчыкі, проста госьці й знаёмыя, і адбыўся традацыйны Дзень ведаў. Усе прысягнулі на вернасьць ліцэю, ведамі й сабою. Сёньня ліцэісты працягваюць займацца, але па розных памяшканьнях.



## *Жанчыны і ГУЛАГ*
## *(накірункі да гендэрнага даследвання)*

*Уладзіслаў Іваноў*

TERRA
HISTORICA

1/2002
Менск

Савецкая гісторыя пачыналася гучна і пампезна, асабліва на дэкларатыўным узроўні, абвяшчалася чалавечая роўнасць не толькі паміж багатымі і беднымі, разумнымі і нядужа, але таксама паміж усімі нацыямі, расамі і паламі. Працяг савецкай гісторыі стаўся не менш грандыёзным – усталяванне "раўнапраўя" суправаджалася стварэннем сістэмы канцэтрацыйных лагероў, дзе перавыхоўваліся ідэалагічна ненадзейныя, крымінальныя асобы.

Яшчэ сёння вялікая частка гулагаўскага айсбергу застаецца пад вадою. Інфармацыя пра канцэнтрацыйнае мінулае краіны, што маецца ў беларускай літаратуры, абмяжоўваецца ўспамінамі, дзённікавымі нарысамі непасрэдных вязняў альбо канферэнцыйнымі дакладамі сучасных даследчыкаў праблемы. У выніку, вядомыя нам матэрыялы носяць агульны характар, амаль адсутнічаюць звесткі пра асаблівасці гулагаўскай гісторыі для розных катэгорый насельніцтва (нацыянальных груповак, мужчын і жанчын і г.д.).

Для гендэрнага аналізу гісторыі працы савецкага рэпрэсіўнага апарату можна выкарыстоўваць дадзеныя з успамінаў тых беларусаў, што прайшлі лагеры (Францішак Аляхновіч, Ларыса Геніюш, Людміла Краснадубская і інш.). Гулагаўскія сведкі досыць часта і яскрава падкрэсліваюць жаночую агрэсіўнасць і лютасць ва ўмовах лагернага суіснавання. Цікава таксама і тое, што сярод вязняў жанчыны складалі пераважную меншасць (Паводле Францішка Аляхновіча, 17-18 адсоткаў ад агульнай колькасці). Аднак ані савецкія, ані нацыянальныя спецыялісты не далі сур'ёзных тлумачэнняў гэтай акалічнасці гендэрнай гісторыі ГУЛАГУ.

### *Жаночае абліччa лагероў*
### *(паводле існуючых беларускіх крыніц)*

Адным з першых, хто закрануў "жаночае пытанне" у беларускай літаратуры быў Францішак Аляхновіч, беспадстаўна арыштаваны ў 1927 г. У сваёй вядомай кнізе "У капцюрох ГПУ" ён пісаў, што сярод 17-18 адсоткаў жанок былі прадстаўніцы розных нацыянальнасцяў і класаў, якія месціліся ў г.зв. "жаночых ротах»[1]. Парадкі былі такія ж жорсткія, як і ў мужчынскіх аддзелах. У гэтых "ротах" красавала прастытуцыя, якая палягчала жыццё. Таму, за выняткам жанчын-калек ды старых, амаль кожная мела "хахаля" ці, нават, сутэнёра. У выніку каля 80 адсоткаў жанок хварэла на венерычныя захворванні, пра што згадвала і Ларыса Геніюш.

**/Працяг на старонцы 6/**

## *Жанчыны і ГУЛАГ*
## *(накірункі да гендэрнага даследвання)*

**/Працяг, пачатак на старонцы 5/**

Жаночае прадстаўніцтва ў лагерах ГУЛАГу базавалася на двух асноўных катэгорыях: "крымінальніцы", да якіх часцяком далучалі кулакоў, сабатажніц ці шкодніц, і палітычныя. Сярод жанчын, што прайшлі праз ГУЛАГ па палітычных абвінавачваннях, былі розныя: і сапраўдныя удзельніцы антысавецкай дзейнасці (зноўку Ларыса Геніюш, Алеся Фурс, Марыя Бялевіч, Палута Бадунова), і жонкі "ворагаў народа" (напрыклад, Дзіна Харык, арыштаваная разам з іншымі 80-цю жонкамі "здраднікаў Радзімы"). Гэтыя апошнія часта не мелі аніякага ўяўлення пра тое, чым займаліся іх сужэнцы, аднак не маглі быць вызваленыя, бо сваяцкая знітаванасць "заражала" абодва бакі сям'і.

Звонку лад жыцця ў мужчынскіх і жаночых лагерах нічым не адрозніваўся, затое цікавым і прынцыповым з'яўляецца той факт, што мужчыны складалі абсалютную большасць з гулагаўскіх вязняў. Смешна казаць пра лагерны парытэт, аднак відавочная полавая дыспрапорцыя – не проста супадзенне, не проста збег абставінаў. Як сярод г.зв. "крымінальнікаў", так і сярод палітычных зняволеных 80-85 адсоткаў складалі мужчыны. І такія ж самыя суадносіны фіксуюцца ў сучасных турмах, пазбаўленых палітычнага адцення.

Калі звярнуць увагу на спіс рэпрэсаваных у БССР літаратараў (усяго 138), дык сярод іх толькі 4 літаратаркі: Ядзвіга Машынская-Гелькеман, Паўліна Мядзёлка, Александара Меркіце і Тамара Цулукідзе. Ці гэта таму, што жынчыны былі менш актыўныя і нацыянальна прынцыповыя за мужчынаў? Ці з'яўляецца колькасная перавага мужчынаў у гулагаўскім прадстаўніцтве супадзеннем ці хутчэй ашчаджэннем савецкай уладаю жанчын?



### *Жаночая агрэсіўнасць, лютасць і амаральнасць як спараджэнне дваістае канцэпцыі грамадзянства ў СССР*

Адной з праблемаў беларускага грамадства з'яўляецца нястача інфармацыі, спецыяльных крыніцаў у тым ліку і па жаночай тэматыцы, аднак амаль паўсюдана кожны аўтар, кожная аўтарка – ва ўспамінах ці навуковых працах транслюе адны і тыя ж міты пра звышагрэсіўнасць жанчынаў ГУЛАГу. Безумоўна, варварскія ўмовы існавання, пакуты, здзек выяўляюць самыя нізкія чалавечыя якасці. Тым не менш, выглядаюць незразумелымі сцвярджэнні накшталт таго, што жанчыны былі тамака куды больш грубейшыя, злейшыя. Напрыклад, Францішак Аляхновіч пералічвае шэраг "жудасных" якасцяў жанчыны, якія "расквітнелі" ў лагерах. Па-першае, жынчыны лаяліся пры кожнай нагодзе, і такую лаянку, якая чулася ў сценах "жэнроты," рэдка можна было пачуць у мужчынскіх ротах. Па-другое, часцяком жанкі, якія мелі дзяцей пры грудзёх, у пошуках кахання аддавалі прызначаны для малых паёк сваім "хахалям". Відавочна, што жахлівыя паводзіны жанчын асуджаюцца значна больш эмацыйна, чым аналагічныя ўчынкі мужчын, якія ўспрымаюцца калі не нармальна, дык з нейкім разуменнем кантэксту варварскай сутнасці гулагаўскай імперыі.

**/Заканчэнне на старонцы 7/**

### *Жанчыны і ГУЛАГ*
### *(накірункі да гендэрнага даследвання)*

**/Заканчэнне, пачатак на старонцы 5/**

Прычына неаднолькавага ўспрымання паводзінаў людзей ва ўмовах лагеру крыецца ў саміх грамадскіх установах тагачаснага СССР. Хаця мужчыны і жанчыны ў роўнай ступені былі "раўнапраўныя ў бесправуі"[2], аднак пры ўліку фізычных здольнасцяў у перспектыве патэнцыйнага супраціву, мужчыны ўспрымаліся ўладамі як больш небяспечныя. Адсюль вынікае абсалютная большасць мужчын ў лагерах сістэмы ГУЛАГ. З другога ж боку, не зважаючы на афіцыйнае абвяшчэнне роўнасці паміж паламі, у СССР назіралася пэўная стэрэатыпнасць ўспрымання ролі жанчыны ў прафесійнай і эканамічнай галінах. Так, напрыклад, прадстаўніцы г.зв. "слабога полу" асацыяваліся з пяшчотнымі і руплівымі мацеркамі, а вобразы Каплан ці Гіпіус хутчэй былі анамальнымі. Часта савецкія спецыялісты – ідэолагі ці, нават, ліберальныя пісьменнікі (зноўку Ф.Аляхновіч) не заўважалі мяжы паміж воляй і гулагаўскай прасторай, і палка апісывалі мужнасць людзей у пасёлках ГУЛАГ, захоўваючы пры гэтым уяўленні сфармаваныя ў даваеннай Чэхаславакіі ці Польшчы.

Савецкая трактоўка жанчыны ў ГУЛАГу складала інтэграцыйную частку афіцыйнай прапаганды па прэзентацыі вобразу жанчыны ў таталітарным грамадстве. Дастаткова ўзгадаць савецкае кіно, дзе жынчыны з цікаўнасцю сачылі за смяротным пакараннем чалавека, дзе яны дамінавалі на плошчы і дзе амаль не было мужчынаў. Асабліва трансляваўся савецкай уладай вобраз жанчыны-маці, а яе палітычная тоеснасць была насамрэч другаснай, што вынікала з біялагічнай. Часткова, гэткае ўяўленне выратоўвала ад масавых рэпрэсій супраць жанчын, бо грамадзянства, а значыць і грамадзянская адказнасць асацыявалася, у першую чаргу, з маскульнасцю, ад чаго грамадская актыўнасць сталася пераважна мужчынскім атрыбутам[3].

Хаця стаўленне ўладаў часам выратоўвала жанчын, аднак яны не змаглі цалкам пазбегнуць жудасных выпрабаванняў, асабліва тады, калі жанчына выходзіла за межы штучнага савецкага вобразу і давала прыклад агульначалавечай тоеснасці.



Інфармацыйная "агульнасць" беларускіх крыніц ускладняе разуменне асаблівасцяў становішча жанчыны ў ГУЛАГу. Асноўную частку крыніц складаюць ўспаміны, ліставанне, інтэрв'ю, дзе вельмі часта цыркулююць стэрэатыпныя ўяўленні аб паводзінах жанчынаў. Гэта тлумачыцца ўплывам дваістай канцэпцыі функцыянавання савецкага грамадства заснаванай на біялагічных прынцыпах, што хаця часткова стрымала наступ гулагаўскай перспектывы на яшчэ большы спектр жанчын, але ж адначасова наклала пячатку стэрэатыпнасці на ўспрыманне ролі жынчыны ў грамадстве.

---

[1] Аляхновіч Ф. У капцюрох ГПУ, Мн., 1994. с.153.

[2] Gapova A. Transitions, January, 1998. s. 72-75.

[3] Joan W. Scott Entretien avec Joan W. Scott. Ce que la gender histori veut dire // Movement, 1998. №2. s.105

Са Святам на тыдні усіх, хто ў гэтыя дні нарадзіўся, пабраўся шлюбам і г. д. Рэдакцыя "Скарба Думак".

# Пытанне нумара:

"Які сэнс Вы ўкладваеце ў святкаванне Дзядоў"

День памяти предков, пожалуй, единственный день в году, который должен объединять всех не зависимо от национальности, вероисповедования, политических взглядов.
Отдать долг уважения не только памяти своих родных и близких, но и всех погибших в годы репрессий и войн - вот, что должно быть святым долгом каждого из нас

Игорь Кузнецов

Дзень памяці свайго роду, дзень ушанавання сьветлай памяці нявінных пакутнікаў ад рук камуністаў і іх паслугачоў.
Даруйце нам, дзяды-радзіцелі!

Насця Гулак

Сьвята „Дзяды" для мяне з'яўляецца новым. Гэтая падзея служыць мне поводам падумаць пра жыццё, яго сэнс, мэту. Поводам успомніць людзей, якія жылі да мяне, якія будуць жыць пасля мяне, якія жывуць і паміраюць сёння.

Гомякевіч Павал.

Рэч у тым, што гаворка, відаць, мусіць ісці не пра святкаванне, бо судатыкненне з загадкавай з'явай шанавання памерлых робіць на мяне вельмі журботнае ўражанне. Мяркую, ёсць мажлівасць узгадаць сваіх дзядоў, продкаў, дзякуючы якім ты і атрымаў у спадчыну сябе. Гэты дзень абуджае, перад усім, генетычную памяць, што дазваляе больш упэўнена працягваць крочыць па жыцці.

**Скарб Думак. № 2.**
*Незалежнае рознабаковае выданне.*
Галоўны рэдактар: Міхась ЛЕБЕДЗЬ.
Тэлефон у Менску: 233 61 89.
Наклад 299 асобнікаў.
**E-mail: lebiedz@tut.by.**
*Выдаецца з 27 кастрычніка 2003 года.*
*Распаўсюджваецца **бясплатна**.*
**3 лістапада 2003 года.**
Выходзіць у панядзелкі.